

ІНФАРМАЦЫЙНЫ ВЕСЬНІК
ГАРАДЗЕНСКАЕ АРГАНІЗАЦЫІ
«МАЛАДОГА ФРОНТУ»

№8
ЛЮТЫ 2001
СПЭЦВЫПУСК

# 25 лютага 2001 года - выбарчая канфэрэнцыя Гарадзенскай арганізацыі Маладога Фронту

**Аб сытуацыі ў Маладым Фронце і аб плянах на будучыню гавораць сёньняшні старшыня Маладога Фронту Андрэй Мялешка і прэтэндэнт на пасаду Вадзім Саранчукоў.**

***-Андрэй, чым бліжэй да выбараў, тым часьцей даводзіцца чуць, што ты зьбіраешся адысьці з пасады кіраўніка Гарадзенскім «Маладым Фронтам»?***

- Я хацеў бы абвергнуць гэтыя чуткі. Таму што, большую частку гэтых чутак ствараю я сам. Каб была хоць нейкая інтрыга ў гэтых абраньнях-пераабраньнях. Насамрэч, я адыходзіць не зьбіраюся. Толькі калі па стану здароўя я не змагу выконваць кіраўнічыя функцыі, у тым выпадку вымушаны буду адысьці...

Ст. 2

***- Вадзім, ты зьяўляешся актыўным прыхільнікам зьменаў у Гарадзенскім Маладым Фронце. Патлумач, калі ласка, сваю пазыцыю.***

- Так, зьмены ў Маладым Фронце насьпелі ўжо даўно. Кіраўніцтва арганізацыі аддзялілася ад асноўнай масы маладафрантоўцаў. Склаліся пэўныя кланы, якія і будуюць палітыку арганізацыі. Як вынік, людзі станіліся, многія пазбавіліся імпэту. Агульны пэсымізм, адсутнасць веры ў перамогу вось што характарызуе сёньняшні Малады Фронт...

Ст. 3

# 14 лютага моладзь Беларусі адзначыла Дзень Валянціна



**14 лютага ў Менску прайшлі мерапрыемствы ў гонар Дня сьвятога Валянціна, арганізаваныя маладзёвай кааліцыяй «Пераменаў!»**

Каля 1 000 маладых людзей сабраліся да 17 гадзін на плошчы Свабоды. Туды ж былі сьцягнуты вялікія сілы міліцыі ў форме і цывільным. Увесь раён плошчы быў фактычна акружаны машынамі і аўтобусамі з супрацоўнікамі правапарадку. Міліцыя пастаянна нагадвала, што мерапрыемства дазволена ў іншым месцы горада - на вуліцы Арлоўскай, а дзеяньні ўдзельнікаў акцыі, якія сабраліся на плошчы Свабоды, парушаюць рашэньне Менгарвыканкама і могуць пацягнуць адміністрацыйную і крымінальную адказнасьць. Спробы разгарнуць бел-чырвона-белыя сцягі спыняліся. Удзельнікаў акцыі здымалі на відэакамеру.

Зь вядомых палітыкаў на мерапрыемстве прысутнічалі старшыня БНФ Вінцук Вячорка, дэпутат Вярхоўнага Савета 13-га скліканьня Павал Знавец, намесьнік старшыні БНФ Алесь Бяляцкі. Удзельнікі мерапрыемства раскідвалі валянцінкі - паштоўкі ў форме сэрца, віншавалі мінакоў зь Днём сьвятога Валянціна. Некаторыя былі апрануты ў карнавальныя касьцюмы і разыгрывалі невялікія сцэнкі. Аднак ход сьвята быў «скамечаны» пастаянным націскам на яго ўдзельнікаў з боку міліцыі.

З плошчы Свабоды ўдзельнікі акцыі, разгарнуўшы некалькі нацыянальных бел-чырвона-белых сьцягоў і сьцяг Эўразьвязу, бесперапынна скандуючы «Жыве Беларусь!», «Моладзь - за перамены!» і раскідваючы тысячы валянцінак, прайшлі па вуліцы Леніна, а затым па прашпэкце Францыска Скарыны да плошчы Перамогі. Падчас руху колькасьць удзельнікаў акцыі ўзрасла да паўтары-дзвюх тысячаў. Ачочаліў калёну лідар «Маладога фронту» Павал Севярынец.

Па ходу на калёну быў учынены напад некалькіх падлеткаў з радыкальных груповак. На плошчы Перамогі былі арганізаваныя правакацыі. Нейкія людзі дэманстратыўна разгарнулі расейскі сьцяг, выкрыквалі розныя лёзунгі, паказвалі непрыстойныя жэсты. Аднак удзельнікі сьвяточнага шэсьця праявілі вытрымку і не зьвярнулі на іх увагі. На плошчы Перамогі, прыкладна а 18.10, маладзёвае шэсьце было завершанае.

Як заявіў лідар «Маладога фронту» Павал Севярынец, моладзь прадэманстравала волю, вытрымку, жаданьне пераменаў. Севярынец станоўча ацаніў праведзенае шэсьце, таму што яно прайшло ў цэнтры Менску, сабрала дастаткова шмат людзей, а затрыманых амаль не было. Тым не меней, паводле звестак «Маладога фронту», затрыманы 6 чалавек, адзін - збіты невядомымі. ■

# Андрэй Мялешка: «Я лічу, што рэзэрвы ў Маладога Фронту ёсьць»

Дзіда:

***-Андрэй, чым бліжэй да выбараў, тым часьцей даводзіцца чуць, што ты зьбіраешся адысьці з пасады кіраўніка Гарадзенскім «Маладым Фронтам»?***

Андрэй Мялешка:

- Я хацеў бы абвергнуць гэтыя чуткі. Таму што, большую частку гэтых чутак ствараю я сам. Каб была хоць нейкая інтрыга ў гэтых абраньнях-пераабраньнях. Насамрэч, я адыходзіць не зьбіраюся. Толькі калі па стану здароўя я не змагу выконваць кіраўнічыя функцыі, у тым выпадку вымушаны буду адысьці.

***- Каротка, як ацэньваеш тры гады свайго кіраваньня Маладым Фронтам? Ці ўсё ўдалося зрабіць, што плянаваў?***

- На сёньняшні дзень у арганізацыі па-ранейшаму ёсьць праблемы. Як і ва ўсіх іншых арганізацыях. Ня ўсё, што мы хацелі зрабіць зробленае, бо ўся дзейнасьць сёньня арыентуецца на прэзідэнцкія выбары, што як і кожная вялікая акцыя, таксама лягуць на плечы нашай арганізацыі.

***- Дарэчы, Малады Фронт, якім ты кіруеш, ужо вызначыў кандыдата якога будзе падтрымоўваць і за якога будзе галасаваць?***

-Так, гэта Сямён Домаш.

***- Чаму, менавіта, ён?***

- На сёньняшні дзень мы бачым яго адзіным кандыдатам. Малады Фронт падтрымаў у гэтым пытаньні ўсе іншыя арганізацыі, што вылучылі Сямёна Домаша адзіным кандыдатам ў прэзідэнты.

***- Цікава, калі б Гарадзенскі Малады Фронт атрымаў магчымасьць вылучыць свайго кандыдата на пасаду прэзідэнта, каго б вы назвалі?***



*«Я адыходзіць не зьбіраюся»*

- Я не буду адказваць за ўсю арганізацыю, але асабіста я паставіў бы на мастака Зьміцера Іваноўскага.

***- Малады Фронт у Гародне існуе з 1997 года. Прайшло дастаткова часу, каб вызначыць лепшыя і горшыя часы ў дзейнасьці арганізацыі. На тваю думку, калі быў «залаты век» Гарадзенскага Маладога Фронту?***

- Бэз варыянтаў, 1998-1999 гады. Гэта быў пэрыяд сталеньня арганізацыі як руху. На той пэрыяд нас падтрымоўвала шмат людзей. Сёньняшні пэрыяд - гэта пэрыяд крызысу.

***-Што перашкаджае пераадолець крызысную сытуацыю?***

- Людзі стаміліся ад таго, што ў нас няма сталага памяшканьня й фінансаваньня. Перашкаджае і тое, што працуюць актыўна толькі некалькі чалавек, мы не зусім здольныя добра зарганізаваць працу нашых людзей. А можа, цяжка працуецца і з-за таго, што кожны імкнецца цягнуць як мага болей справаў.

***- Ці ёсьць рэзэрвы для ўзмацненьня дзейнасьці арганізацыі?***

- Я лічу, што рэзэрвы ёсьць. І каб у нас не было праблемаў зь дзяржавай, гэтыя рэзэрвы можна было б выкарыстаць.

***- Уявім, што цябе ў чарговы раз пераабралі старшынём Маладога Фронту. Ты ўжо распрацаваў сваю праграму дзеяньняў, ці пойдзеш па ўжо вядомай каляіне?***

- Я збіраюся працаваць па праграме «Малады Фронт - Пераменаў!». Плянную ўмацаваць структуры арганізацыі, пашырыць накірункі працы.

***- На сёньняшні дзень тваім адзіным супернікам на выбарах старшыні арганізацыі зьяўляецца Вадзім Саранчукоў...***

- Я лічу, што Вадзім будзе больш карысны на пасадзе майго намесьніка. Аднак, калі ён пераможа, я буду працягваць і надалей працаваць у арганізацыі.

***- Якім ты бачыш месца Маладога Фронту пасьля таго, як на выбарах прэзідэнта пераможа дэмакратычны кандыдат?***

- Па выбарах Малады Фронт будзе адыгрываць ролю, як напрыклад «Маладыя дэмакраты» ў Польшчы. Гэта значыць будзе моладзевым крылом нейкай палітычнай партыі. А калі дэмкандыдат будзе з таталітарнымі замашкамі, МФ зноў пойдзе ў апазыцыю, але гэта менш верагодна. Мяне б больш задаволіла месца моладзевей арганізацыі Беларускага Народнага Фронту.

***- Калі цябе пераабяруць старшынём арганізацыі, ці зьменіш ты каманду сваіх намесьнікаў?***

- Канкрэтныя прозьвішчы сваіх намесьнікаў я назаву па сваім абраньні. Гэта будуць людзі, якія пачннуць працаваць больш актыўна на месцах і падштурхоўваць да працы іншых людзей . А такія людзі ёсьць.

***- Ці маеш ты намер зьмяніць сытуацыю, калі менскі цэнтар Маладога Фронту дыктуе Гарадзенскай арганізацыі ўмовы і плян дзеяньняў?***

- У Менску склалася ўражаньне, што мы самая моцная арганізацыя, і можам сваёй дзейнасьцю ствараць ім імідж. Пры гэтым яны не хочуць аказваць нам аніякай падтрымкі, акрамя, магчыма, інфармацыйнай. І гэтае становішча я спадзяюся зьмяніць. Але больш канкрэтна пасьля пераабраньня.

# Зьменаў у Маладым Фронце ня трэба баяцца

**Дзіда:**

***- Вадзім, ты зьяўляешся актыўным прыхільнікам зьменаў у Гарадзенскім Маладым Фронце. Патлумач, калі ласка, сваю пазыцыю.***

**Вадзім Саранчукоў:**

- Так, зьмены ў Маладым Фронце насьпелі ўжо даўно. Кіраўніцтва арганізацыі аддзялілася ад асноўнай масы маладафронтоўцаў. Склаліся пэўныя кланы, якія і будуюць палітыку арганізацыі. Як вынік, людзі стаміліся, многія пазбавіліся імпэту. Агульны пэсымізм, адсутнасць веры ў перамогу вось што характарызуе сёньняшні Малады Фронт.

***- У такім незайздросным, па тваіх словах, становішчы арганізацыі мусяць абавязкова быць вінаватыя.***

- Зразумела, што ў любым выпадку асноўную адказнасць нясе старшыня. Але ня толькі ён, а і ўсе мы, тыя хто працуе ў кіраўніцтве, намесьнікі старшыні, сябры рады. Таму зьменаў ня трэба баяцца, гэта нармалёвы дэмакратычны працэс.

***- Ты быў ініцыятарам стварэньня інстытута суполак у Гарадзенскім Маладым Фронце. Гэта пачатак зьменаў?***

- Так, гэта пачатак зьменаў, зьменаў да лепшага. Стварэньне суполак на маю думку прывядзе да актывізацыі дзейнасьці, мабілізацыі людзкіх рэсурсаў. Пачнуць працаваць тыя, хто сёньня адпачывае.

***- Падай, калі ласка, некалькі тэзаў сваёй перадвыбарчай праграмы?***

- Мая праграма выпрацавана часам і камандай маіх аднадумцаў. Па-першае, гэта павелічэньне ўплыву ў Маладым Фронце сацыяльных плыняў, па-другое, падвышэньне інтэлектуальнага ўзроўню сяброў арганізацыі, трэцяе, перахоп ініцыятывы як у старэйшай арганізацыі Фронту, так і аб'яднаньне малакольккасных незалежніцкіх моладзевых ініцыятываў, якія дзейнічаюць у Гародні пад эгідай Маладога Фронту. Так, калі каротка ды ў агульных рысах. У сваёй праграме я паспрабаваў аб'яднаць інтарэсы ўсіх сяброў арганізацыі.




*Вадзім Саранчукоў на пікеце «Падтрымаем прэзыдэнта» 10 лютага 2001 года*

***- Калі я ўсё зразумеў, ты зьбіраешся зьмяніць імідж Маладога Фронту як арганізацыі толькі вулічнага дзеяньня?***

- Так, калі раней МФ быў толькі вулічнай арганізацыяй, прызначанай раскідваць улёткі, дык я пляную зьмяніць наш погляд на жыцьцё і скарэктаваць арыентыры сяброў нашай арганізацыі.

***- У такім выпадку, калі чакаць кардынальных станоўчых зьменаў у арганізацыі?***

- Зразумела, павінен прайсьці пэўны час. Адзін я самастойна нічога не здолею зьмяніць. Малады Фронт - гэта не арганізацыя толькі Вадзіма Саранчукова, гэта арганізацыя кожнага сябра.

***- Якую ролю ў тваім уяўленьні павінен адыгрываць Малады Фронт ў блізкай ужо прэзідэнцкай кампаніі?***

- У апазыцыйных палітыкаў ёсьць уражаньне, што Малады Фронт можна будзе лёгка выкарыстаць у сваіх мэтах падчас кампаніі. Што гэта будзе добрая сіла раскідваць улёткі, клеіць плякаты і г.д. Аднак, гэта не зусім так. Ва ўсіх палітычных працэсах, што будуць адбывацца ў Беларусі, мы паспрабуем заняць лідарскую пазыцыю.

***- Намалюй месца Маладога Фронту на палітычнай сцэне Беларусі пасьля прэзыдэнцкіх выбараў.***

- Ёсьць два варыянты. Перамога нашага кандыдата і перамога Лукашэнкі ці ягонага стаўленіка. Калі пераможа наш кандыдат - Малады Фронт становіцца найшырэйшым моладзевым рухам, дзе знойдзе месца кожны.

А калі перамагае Лукашэнка, чаго безумоўна не адбудзецца, дык мы хутчэй за ўсё зыйдзем у падпольле. Нас наогул чакаюць вялікія цяжкасьці, але да таго моманту мы ўжо будзем да іх падрыхтаваныя. ■

**ПАЗЫЦЫЯ**

## Хачу выйсьці з арганізацыі

**Па-першае**, я адчуваю, што не зусім добра спраўляюся са сваімі абавязкамі. Калі шчыра, я не зусім разумеў у чым мае абавязкі. Таму я лічу, што сёньняшняе кіраўніцтва недзеяздольнае, яно застаялася.

**Па-другое**, мой прынцып - чалавек будзе эфектыўным, калі будзе працаваць у сваім кірунку. Я знайшоў сябе ў папулярным краязнаўстве і выдавецкай дзейнасьці. Але, кіраўніцтва Маладога Фронту не дае мне магчымасьці займацца гэтай справай. Калі я праводжу пэўныя мерапрыемствы, кіраўніцтва крыўдзіцца, што гэтыя мерапрыемствы праводзяцца не пад шыльдай Маладога Фронту.

**Па-трэцяе**, я не бачу пэрспэктывы ў Маладым Фронце, пакуль ён ня зьменіць кірунка сваёй дзейнасьці. Я не бачу ў Маладым Фронце будучыні, пакуль ён будзе прэтэндаваць на ўсё і пры гэтым анічога канкрэтнага не рабіць, і пакуль будзе паўсюдна заяўляць, што гэта самая буйная і дзеяздольная арганізацыя.

Малады Фронт, я лічу, павінен знайсьці сваю нішу, заняць канкрэтную сфэру. У нас няма сваёй праграмы, якую трэба рэлізоўваць. Нават у Менску выдумалі сваю праграму і тое не рэалізоўваюць.

**Па-чацьвёртае**, мне асабіста надакучыла губляць свой час на нецікавых, некарысных паседжаньнях, пры тым малалюдных. Калі праз пяць хвілін старшыня кажа: «Ну што, паседжаньне можна ўжо заканчваць».

**Па-пятае**, мне падаецца, што Гарадзенскі Малады Фронт набывае «лаховы» імідж. Мне падаецца, старшыня проста вымушаны сачыць за сваім зьнешнім выглядам. Будзь нефармалам, але не брудным. І найперш гэтага мусіць прытрымлівацца кіраўніцтва. Яшчэ наша «лаховасьць» у няшчырасьці, калі іншыя справы прысвойваюцца Маладому Фронту.

*Валера Руселік*

## ў Слоніме Сьвяты Валянцін расьцягнўся

**14 лютага сябры моладзевага грамадзкага аб'яднаньня "Ветразь" павіншавалі навучэнцаў навучальных установ Слоніма з Днём Сьвятога Валянціна.**

Гэта было зроблена шляхам разьвешваньня ў гэтых установах сьвяточных запрашэньняў.Гэта было ўжо другое на працягу тыдня віншаваньне жыхароў Слоніма з Днём Усіх Закаханых: першае адбылося ў нядзелю, 11 лютага, калі маладзёны з "Ветразі" раздавалі на рынку Слоніма валянцінкі, жуйкі "Love is", а таксама налепкі "14 лютага-Дзень Сьвятога Валянціна". У той жа дзень моладзь завітала ў Слонімскі РАУС, каб павіншаваць міліцыянтаў з Днём Закаханых.

## Дзень Сьвятога Валянціна ў Гародні

**14 лютага сябры "Маладога Фронта" і "Маладой Грамады" на працягу дня раздавалі па горадзе віншавалі ўсіх жыхароў гораду, раздаючы ім валянцінкі.**

Ува навучальных установах і на прыпынках гораду было раздадзена каля 2-х тысячаў маленькіх картонных паперак, у якіх было пазначана " 14 лютага - Дзень Сьвятога Валянціна. Моладзь Гародні віншуе Вас са сьвятам".

У другой палове дня Сямёну Домашу, якога моладзь лічыць будучым прэзыдэнтам, было ўручана сьвяточнае віншаваньне ад кааліцыі "Пераменаў!". Сямён Домаш атрымаў прыгожую накідку з надпісам "14 лютага – Дзень Сьвятога Валянціна. Любові, свабоды, пераменаў!", аўдыёкасэту "Моге каханьня" ды ўрачыстую валянцінку.

Скончыла агульнае сьвяткаваньне моладзевая дыскатэка, якая праходзіла ўва Медычным Унівэсытэце. Тут да маладзёнаў з "Маладога Фронту" і "Маладой Грамады" далучыліся прадстаўнікі яшчэ 2-х арганізацый: Моладзь АГП і Незалежны Моладзевы Рух. Пад час дыскатэкі праводзіліся конкурсы, пераможцы якіх атрымалі ў падарунак беларускія аўдыё касэты.

Раздачва валянцінак працагвалася яшчэ апасьля дыскатэкі і скончылася прыкладна а 1-й гадзіне ночы ўжо 15 лютага.

## Асуджаны лідар Маладога Фронту



**Лідэр «Маладога фронту» Павел Севярынец 19 лютага рашэннем суда Цэнтральнага раёна Мінска аштрафаваны на 150 мінімальных зарплат (прыкладна 450 долараў ЗША па рынкаваму курсу).**

Суддзя Таццяна Паўлючук, якая разглядала справу Севярынца, прызнала яго вінаватым у арганізацыі несанкцыяніраванага шэсця моладзі ў Мінску ў Дзень святога Валянціна (14 лютага) - артыкул 167, частка 2 Кодэкса Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях. Гэтыя высновы заснаваны на аснове рапартаў, пратаколаў і паказанняў у судзе супрацоўнікаў міліцыі, якія не супярэчаць адзін аднаму, і таму, паводле сцвярджэння суддзі, з'яўляюцца дакладнымі.

У судзе таксама былі прагледжаны відэазапісы падзей. У адным істотным моманце яны супярэчылі паказанням міліцыянераў - на відэаплёнцы не зафіксавана, што Севярынец заклікаў прысутную на плошчы Свабоды моладзь да шэсця. У пісьмовых матэрыялах - пратаколах і рапартах супрацоўнікаў міліцыі, - а таксама ў іх паказаннях у судзе гаварылася, што маладзёжны лідэр заклікаў моладзь да шэсця.

Выступаючы ў судзе, Севярынец звярнуў на гэта ўвагу і хадайнічаў аб перакваліфікацыі інкрымінуемага яму парушэння з пункта 2 на пункт 1 артыкула 167 КоАП, які прадугледжвае меншае пакаранне. Аднак суддзя адхіліла хадайніцтва, а таксама не адлюстравала гэтай супярэчнасці ў пастанове, абгрунтаваўшы віну Севярынца іншымі фактамі - тым, што ён трымаў сцяг, скандзіраваў лозунгі і гэтай далей. Лідэр «Маладога фронту», адказваючы на пытанні журналістаў, сказаў, што не выключае магчымасці падачы скаргі на пастанову суда.

Павел Севярынец назваў «дзікунствам», калі за святкаванне міжнароднага Дня святога Валянціна, якое прайшло выключна мірна, беларускія ўлады ажыццяўляюць пераслед яго ўдзельнікаў. ■

## Акцыя скончылася без затрыманьняў і эксцэсаў.

**Дзень Закаханых па-ваўкавыску**

Ваўкавыскія "Ліцьвіны" гэтаксама адзначылі Дзень Сьвятога Валянціна раздачай валянцінак па горадзе і прапапаноўвалі, акрамя гэтага, выцягнуць са скрынкі фанты з жаданьнямі.

Маладзёны лічаць, што жаданьні задуманыя ў гэты дзень спаўняюцца вельмі хутка.

## У Берасьці рэй вяла фея

14 лютага ў Брэсце прайшоў пікет «Маладога фронту», прымеркаваны да Дня святога Валянціна.

«Малады фронт» падаў заяўку на яго правядзенне ў гарвыканкам, аднак напярэдадні атрымала адмову. Нягледзячы на гэта актывісты арганізацыі сабраліся а 16-й гадзіне на пешаходнай вуліцы Савецкай і амаль паўтары гадзіны раздавалі прахожым валянцінкі - сардэчкі, на якіх было напісана «Любові! Свабоды! Пераменаў!».

Адна з удзельніц, апранутая ў касцюм феі з прымацаванымі да спіны крыльцамі, падыходзіла да прахожых і віншавала іх са святам. Апрача таго, удзельнікі акцыі дэманстратыўна распілі бутэльку шампанскага.

*Андрэй Мялешка*

ІНФАРМАЦЫЙНЫ ВЕСЬНІК ГАРАДЗЕНСКАЕ АРГАНІЗАЦЫІ «МАЛАДОГА ФРОНТУ» ЗЬЯЎЛЯЕЦЦА НЕПЭРЫЯДЫЧНЫМ ВЫДАНЬНЕМ. НАКЛАД 299 АСОБНІКАЎ.
АДРАС ДЛЯ КАНТАКТАЎ: 230003, ГОРАДНЯ-3, А/С 110.ТЭЛ.72-11-83; ФАКС:76-29-73;
E-MAIL: BUNT.HRODNA@USA.NET;MPAVAL@YAHOO.COM
АДКАЗНЫ ЗА ВЫПУСК:ПАВАЛ МАЖЭЙКА
ВЕСЬНІК ВЫДАЕЦЦА ПРЫ СПРЫЯНЬНІ ГАГА «РАТУША» І МІЦ ( МЕНСК )